Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 4000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 48.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 8000 мк., сярод тэксту 7000 м. і на 4 стр. 6000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 11. Вільня, Нядзеля, 23-га верасьня 1923 г. Год I.

## „Трыкутнік сіл“.

У тым ўнутраным змаганьні, якое адбываецца *на грунце сацыяльнага падзелу* ў грамадзянстве Польшчы, звычайна разрозьніваюць *дзьве сілы* — два ўзаемна варожыя згуртаваньні партыяў. З аднаго боку маем „левіцу“—згуртаваньне польскіх сацыялістаў і „вызваленцаў“ з далучыўшайся да апошніх групай „людоўцаў“ Домбскага; з другога боку — так-званую „хіена-пястоўскую“ большасьць, аб'яднаньне права-цэнтравых партыяў, аднолькава варожых да сацыяльнага радыкалізму „левіцы“.

Але ёсьць ў Польшчы яшчэ трэцяя сіла, якая творыцца не на сацыяльным грунце, а на грунце *нацыянальным*: гэта згуртаваньне *нацыянальных меншасьцяў*. Трудна гэтаму згуртаваньню даць якоесь іншаеназваньне: гэта—нешта нясталае, нешта такое, што творыцца самым ходам жыцьця „ад прыпадку да прыпадку“, да чаго нацыянальныя меншасьці, па сваім сацыяльным і палітычным імкненьням зусім сабе чужыя, *прымушаюцца* варожай палітыкай ў адносінах да іх Польскае дзяржавы.

„Інародцаў“ білі ўсе „левіцовыя“ ўрады з панам Пілсудскім наперадзе. Б'ець іх і цяперашні правы ўрад, толькі больш адкрыта, „дзеля прынцыпу“. І, як раней, так і цяпер вонкавыя прычыны нязьменна прымушаюць меншасьці ўзаемна гарнуцца да сябе, каб супольнымі сіламі бароцца за існаваньне ўсіх няпольскіх нацыянальнасьцяў разам і кожнае асобна.

Такім парадкам на арэну ўнутранае грамадзкае барацьбы ў межах Польскага гаспадарства—побач з „правіцай“ і „левіцай“ — выступае *трэцяя сіла*: нацыянальныя меншасьці.

Утварыўся такі *трыкутнік сілаў*: „правіца“ змагаецца з левымі і меншасьцямі, „левіца“ — з правымі і тымі-ж меншасьцямі, урэшце, нацыянальныя меншасьці прымушаны бароцца і з аднымі і з другімі, бо і з правага і з левага боку проці іх вядзецца паход.

Прымусовае аб'яднаньне нацыянальных меншасьцяў паміж сабою, ня гледзячы на клясовыя супярэчнасьці, якія ў іх істнуюць, адбіваецца на ўсім укладзе грамадзкіх сіл ў Польшчы. Гэта дужа добра разумее „левіца“ і стараецца на ўсялякія спосабы дабіцца раздрабненьня нацыянальных меншасьцаў на клясовым грунце, каб гэтак левыя элемэнты перацягнуць на свой бок.

На першы пагляд, гэта здаецца вельмі натуральным і справядлівым. Кожная нацыянальная меншасьць—гэта кампрамíснае згуртаваньне рознародных, ўзаемна варожых сабе з клясовага пагляду груп. Аднак, зусім ясна, што пагроза зьніштажэньня кожнае нацыянальнае меншасьці „чорнымі“ ці „чырвонымі“ польскімі нацыяналістамі роўна небясьпечна як для ўсяго нацыянальнага цэлага, так і для асобных клясаў гэтага цэлага. На гэтым—і *выключна на гэтым*—і дзяржыцца еднасьць ў нацыянальных меншасьцаў, — ды аб гэта разьбіваюцца ўсе спробы пэпээсаў, іх саюзьнікаў, перацягнуць левыя групы меншасьцяў да польскае „левіцы“. Разьбіваюцца і *будуць разьбівацца*, бо пагроза нацыянальнаму істнаваньню меншасьцяў ідзе ад „левіцы“ ў такой самай меры, як і ад „правіцы“.

Гэта павінны зразумець польскія левыя партыі—П. П. С. і іх суседзі справа. Мы можам згаварыцца з больш левымі суседзямі пэпээсаў, з прадстаўнікамі польскіх *незалежных сацыялістаў* і ім падобнымі, бо беларускія сацыялісты ня бачаць ў іх захватніцкага, зьвярынага нацыяналізму, уласьцівага „пэпээсам“ і іх больш правым саюзьнікам. Але з тымі, хто з поўнай сьвядомасьцяй свайго паступку рэзаў у Рызе жывое цела Беларусі, каб „ратаваць“ двары польскіх паноў ад падзелу іх між сялянамі, з тымі, хто, як „вызваленцы“, *у часе выбараў* у сойм апранаўся ў беларускую вопратку і кляўся здабыць для нас школу ў роднай мове, ды назат суліў аўтаномію, а *пасьля выбараў* адрокся ад ўсяго гэтага,—з тымі супольнага языка нельга знайсьці.

І *ня меншасьці трэба „лячыць“ ад „нацыяналізму“, але трэба вылячыць ад яго польскую „левіцу“*, і толькі тады зчэзьне тая вонкавая сіла, што *прымушае* меншасьці дзяржацца адзінага нацыянальнага фронту.

На жаль, такога радыкальнага „самалячэньня“ ад пэпээсаў і камп. спадзявацца ня прыходзіцца. Аб гэтым сьведчыць факт, што на праектаваным партыйным кангрэсе П. П. С. справа адносін да нацыянальных меншасьцяў будзе разглядацца ў межах тых асноўных палажэньняў, якія былі запрапанованы прадстаўніком пэпээсаўскае „правіцы“, вядомым сваім дзікім нацыяналізмам, панам Недзялковскім. А раз партыя йдзе за Дашынскімі і Недзялковскімі, яна ня можа далёка адыйсьці ад Вітасаў і Гломбіньскіх ў нацыянальным пытаньні.

І напярэдадні магчымага абастрэньня палітычнае барацьбы ў Польшчы мы павінны прызнаць, што ў укладзе грамадзкіх сіл нельга спадзявацца ніякіх зьмен: *„трыкутнік сіл“ астаецца непарушны.*

**Лаўрыновіч.**

## Паміж дзьвюх сілау.

**Мінулая** сусьветна-імпэрыялістычная вайна перакроіла нанава карту Эўропы, паляпіла на ёй дзяцей вэрсальскага міру—новыя, па істоце сваёй імпэрыялістычныя маладыя дзяржавы. І рэч гэта зусім натуральная—імпэрыялізм дужых тварцоў Лігі Народаў і вэрсальскаму трактату спарадзіў на свой кшталт арганізмы здолеўшых выбіцца на шлях самастойнае дзяржаўнасьці некаторых народаў.

Гэткія зьявішчы ведала гісторыя й раней, і конструіраваньне пераможцамі новых пасьляваенных дзяржаваў—рэч зусім ня новая пад сонцам.

Нябывалым толькі па сіле зьяўляецца іншы рэзультат вайны—гэта падзел цэлага сьвету на *дзьве клясава варожыя паміж сабою сілы*.

Падсалоджаны парлямэнтарызмам, эўропэйскі даваенны дэмократызм апынуўся пасьля сусьветнай разаніны ў хвасьце прогрэсу ўсяго чалавецтва.

Як кашмарны сон, зьнікла на ўсходзе Эўропы вялізарнейшая імпэрыя расейскіх цароў, зьмяніўшыся сягоньня на Саюз Радавых Соцыялістычных Рэспублік.

Адкрытае агалашэньне і жорстнае праводжаньне ў жыцьцё гэтым Саюзам прынцыпу дыктатуры працоўнае клясы, дыктатуры пролетарыяту, патрасло да караня жыцьцё ўсяе старое Эўропы, выклікаўшы шалёную ненавісьць да яе пануючае буржуазнае клясы.

Даваенная цыркуляцыя капіталу на ўсім сьвеце спалярыжавалася.

Бой нямецка-ангельскага капіталізму за новыя рынкі скончыўся для вэрсальскае Эўропы фатальна. Фатальны канец яго і для старых эўропэйскіх дзяржаваў, асабліва для пераможаных, але ў сэнсе эканамічным для так званых „дзяцей Вэрсалю“ канец вайны, даўшы фактычную палітычную дзяржаўную незалежнасьць, даў разам з тым поўную гаспадарчую залежнасьць ад дзяржаваў-пераможцаў.

У сэнсе гаспадарчым з усяго гэтага крывавага кашмару вайны найфатальней выйшаўшаю выглядае Польшча.

На мінулым тыдні прэса зафіксавала, што толькі за апошніх дзесяць дзён мінулага жніўня месяца ў Польшчы выдрукавана новых банкнотаў на суму 1.481.582.810.764 маркі, альбо штодня каля 150 мільярдаў марак.

І гэта бяз ніякага бальшавізму, бяз ніякай там дыктатуры пролетарыяту, грамадзянскай вайны і інш.

Праўда не ідэальным зьяўляецца, пры грубым параўнаньні, палажэньне гаспадаркі на абшарах быўшае Расеі, дзе цяпер Саюз Социяльных Рэспублік, але-ж да „мільянэрства“ кожнага грамадзяніна-пролетара гэтага новага ў сьвеце дзяржаўнага арганізму мяшчанскае обывательскае вока і вуха ўжо прывыкла і па абмяжованасьці сваёй лічыла дасюль прычынаю мільённых там банкнотаў усяго толькі адно: бальшавіцкую ўладу.

У галаве обываталя не зьмяшчаліся нялічаныя прычыны эканамічнае разрухі ад ваеннаго напружаньня, рэвалюцыйнае ломкі, грамадзянскае вайны, замаскованае дэнікініядаю, колчакоўшчынай і г. д. заграничнае інтэрвэнцыі.

Нарэшце, невычарпальнае багацьце расейскіх абшараў, паварот да „дзяржаўнага капіталізму“ пануючае партыі, зававліваньне да сябе чужаземнага капіталу і весь эканамічны скачок бальшавікоў назад магчыма што й паставіць калі на рэльсы колёсальны разбураны воз свае гаспадаркі.

Чуваць усюды, што там, у пролетарскіх дзяржавах, пачалося ўжо значнае эканамічнае выздараўленьне.

А якія-ж надзеі на гэткае выздараўленьне хаця-бы фатальных фінансаў у Польскай Рэспубліцы?

Дасюль, прыйшоўшыя цяпер да ўлады, партыі трубілі, будучы ў „народовэй“ опозыцыі ранейшым эрзац-левым урадам, што марка маланкаю паднімецца ўгару пры іх кіраваньні гаспадарствам.

А на дзеле аказалася, што ранейшыя 50-тысячныя банкноты замалыя для хьена - пястаўскага ўраду і выпушчаны ўжо ім адразу банкноты ў адну чверць мільёна—250 тысячныя.

Найменшыя дзяржаўныя вураднікі фортунным лёсам і шчодрым саюзам Хьены з Пястам абдараны раптам шчасьцем быць мільянэрамі, а вышэйшыя рангі вураднікаў прыходзіцца аплачваць ужо дзесяткамі мільёнаў марак.

А надзея ўсяго толькі на дабравольнае ахвяраваньне грамадзянамі золата й каштоўнасьцяў ды на заграничную пазычку, якая ніяк ня хоча выехаць з Парыжа.

Праўда, нешта маюць даць падаткі, але ад іх і так ужо скрыпіць абывательскі карак.

Паўстаўшы да жыцьця на мяжы дзьвух варожых сіл, Польша не магла ўхіліцца ад авангарднага палажэньня на старане аднае з іх, пасадзіўшы ўсю маладую энэргію неакрэпшага яшчэ дзяржаўнага арганізму за марныя рэзультаты рыжскага міру.

Мір гэты стварыў ёй балючую ірэдэнту, выкрэсьліць якую з ліку сваіх жыцьцёвых няўстройстваў няма ніякай магчымасьці.

Як зьмянілася на горшае польская марка за час ад пачатку польска-савецкае вайны да сягоньняшняга дня можна лёгка пераканацца цераз адно-два дробных параўнаньні.

Пры окупацыі Менску ў 1919 г. фунт чорнага хлеба быў па... 3 маркі, а сягоньня дайшоў да $2^1/_2$—3 тысячаў марак. Рэстаранны палудзень каштаваў тады 8 марак, а цяпер 25 тысячаў іх.

Дарагоўля вырасла, распухла, як у байцы і ня мае ніякае тэндэнцыі спадаць.

А хто ад яе церпіць?—Бядак.

Каму яна ня страшная саўсім? Багатыру.

Як і ўсюды, так і ў Польшчы дзьве варожыя між

Цяпер, пад націскам большасьці прыхільных да Югаславіі дзяржаваў, Мусоліні даў выясьненьні да ўсей справы.

Ваенны губэрнатар назначаны толькі для забесьпячэньня парадку тымчасова. Але да гэтага Мусоліні дадае, што Р‘ека ня можа ўтрымацца як вольны горад, ня маючы скуль узяць 40 міл. лiраў, якія патрэбны ёй у год... і ня маючы аружнай сілы, каб забясьпечыць мірнае развіцьцё места...

Італія можа зрабіць гэтыя ахвяры, але яна мусіць ведаць, на што дае...

Акурат гэта самае кажа і Югаславія...

Да чаго прывядуць перагаворы абедзьвюх, няведама.

# З газэт.

### Да характэрыстыкі П. П. С.

Мы ўжо пісалі аб выступленьнях п. Язэпа Пілсудскага на публічных лекцыях ў Львове і ў Вільні. Цынічная шчырасьць яго, з якой ён раскрываў усе свае шахрайскія палітычныя „posunięcia", выклікала абурэньне ня толькі ў беларусаў, але і ў лепшай часткі польскіх дэмакратаў. Вось, польскі журнал „Przegląd Wileński" надрукаваў пад загалоўкам „Hokus-pokus" дужа справядлівую крытыку дзейнасьці і выступленьняў гэтага „бышага сацыяліста".

Стацыя гэта зрабіла сярод пэпээсаў і другіх „пілсудчыкаў" такое ўражаньне, як палка, калі яе ўткнуць у муравейнік. Адзін з іх прыслаў у рэдакцыю „Przegl. Wil." пісьмо з словамі найвялікшага абурэньня. З гэтае прычыны рэдакцыя „Prz. Wil." ў апошнім нумары піша:

Што фанатычным паклоньнікам асобы „Камэнданта" крытыка яго́ных слоў і ўчынкаў магла непадабацца, гэта рэч зусім зразумелая і натуральная,—але больш дзіўна тое, што гэны наш падпішчык належыць да П. П. С. Што ўласьціва злучае цяпер польскіх сацыялістаў з першым маршалкам Польшчы, апрача ўспамінаў аб супольнай мінуўшчыне? Але асабістае пачуцьцё не павінна ўлываць на орыентацыю і перакананьні палітычнага дзеяча. Сацыялістамі былі і цяперашні прэзыдэнт Француская рэспублікі, Мільеран, і даверaны чалавек Пуанкарэ, Вівіяні, і правадыр італьянскіх фашыстаў, Мусоліні. Але ані францускія, ані італьянскія сацыялісты не пачуваюць ніякае супольнасьці з былымі таварышамі, ды нават тым вастрэй змагаюцца з імі.

Лекцыі Пілсудскага ў Вільні былі апотэозай штыхоў, палітыкі „зробленых фактаў" і маладога нацыяналізму, процілежнага пудлівым, старэчым і опортуністычным эндэцкім мэтадам. Ня было ў іх ні слова аб брацтве народаў, аб лёзунгах міжнароднага пралетарыяту, аб барацьбе з сацыяльнай рэакцыяй,—ня было нават найменшае адзнакі спогаду для ідэалёгіі, якая дагэтуль фармальна абязывае ўсіх сацыял-дэмакратаў, а значыць і П. П. С.

Аднак, цікаўная рэч, што крытыка, да таго зусім об‘ектыўная, выступленьняў Пілсудскага найбольш забалела чыннаму сябру (а мо‘ цяпер толькі сымпатыку) П. П. С. Мы бачылі також, што адным з найбольш шчырых арганізатараў овацыяў для Пілсудскага быў гэтак сама чынны сябра, ці сымпатык (бо гэта ўсьцяж зьмяняецца) Польскай Партыі Сацыялістаў. Дык што-ж ў істоце сваей прадстаўляе П. П. С. наагул і яе віленская філія асабліва?

Пытаньне гэтае стаецца даволі актуальным, калі паставім побач хаця-бы такія факты: з аднаго боку П. П. С. офіцыяльна кажа аб зьліжэньні з Бундам, а з другога—імя прывадыра віленскіх пэпээсаў стаіць на першым месцы ў адозьве, што заклікае даваць грошы на куплю крыжа для біскупа Бандурскага...

Трудна быць больш усестароньнімі!

Так, для *сацыялістаў*—трудна, але для *нацыяналістаў з „сацыялістычным фігавым лістком"*—зусім лёгка і натуральна!

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

**Мэморыял Літоўскага Камітэту.** Тымчасовы Літоўскі Камітэт ў Вільні падаў 4 верасьня г. г. Радзе Міністраў у Варшаве мэморыял, у якім пералічываюцца крыўды і рэпрэсыі адносна літоўскага народу ў межах Польшчы, стасаваныя мяйсцовай адміністрацыяй, асабліва ў справах асьветы і прэсы. Зьмест мэморыялу будзе паданы ў чарговым нумары.

**Новая староства.** Згодна з плянам адміністрацыйных уладаў аб зьмене граніцаў крэсовых паветаў істнуе праект утварэньня двух новых староставаў: Эйшыскага і Маладэчынскага і скасаваньня Валожынскага. У склад Эйшыскага павету, згодна з праектам, будуць уваходзіць гміны: Эйшыская, Радунская, Палецкішкая, Каняўская, Заблоцкая, Сабакінская, Алькеніцкая і Рудзіская. У склад Маладэчынскага павету ўвайшло-б 11 гмінаў, паміж імі некаторыя з скасованага Валожынскага пав.

**Хлеб зноў падаражэў.** Абвешчаны цэньнік саюзу пекараў з 20 верасьня вызначыў цану пытляванага хлеба—5000 мк., а чорнага 3500 мк. за фунт.

**Выкіданьне на вуліцу.** Газэта „Ziemia Ojczysta" падае гэткі факт: 10 гэтага месяца здарыўся абураючы факт, а іменна тры сям‘і былі выкінуты на вуліцу з сваіх памешканьняў праз ксяндза Савіцкага, з дому № 8 пры вул. Сьв. Міхала, які дом быў пад загадам кс. прэлата Савіцкага. Справа прадстаўляецца вось як. Праз два тыдні пасьля тэрміну кватэранты прынясьлі ксяндзу патрэбную плату, якой ксёндз ня прыняў, сказаўшы, што возьме, як установіцца валюта і, нічога ім ня кажучы, падаў у суд. Калі кватэранты даведаліся, што іх засудзілі на высяленьне, дык прышлі да ксяндза і прапанавалі яму плату, колькі ён хоча, але ксёндз іх супакоіў, што з памешканьняў іх ня выкідае і грошай ня ўзяў. Людзі паверылі, бо каму-ж верыць, калі не ксяндзу, і спакойна сядзелі, не апэлюючы да суду. Але калі прайшоў тэрмін апэляцыі, тады ксёндз пры дапамозе ўладаў выкінуў кватэрантаў, якія цяпер ня маюць страхі над галавою і начуюць на дварэ. Вось якая ў ксяндза Савіцкага „любоў да бліжняга", аб якой ён так часта гаворыць ў касьцеле.

Беларускія ксяндзы з прычыны брахлівых паклёпаў, зьмешчаных ў эндэцкай газэце „Dziennik Wileński", цягнуць рэдактара гэтай газэты да судовай адказнасьці.

Клясавы Профэсыянальны Саюз гарадзкіх работнікаў зьвярнуўся да Магістрату з жаданьнем выплаты да 1 кастрычніка ўсей нявыплачанай да гэтага часу платы. У выпадку невыпаўненьня гэтага дамаганьня Саюз заяўляе, што складае з сябе адказнасьць за магчымыя вынікі.

26 жніўня ў м. Клецку Несьвіскага пав. адбыўся справаздаўчы мітынг, наладжаны паслом Рагуляю.

# Весткі з вёскі.

### М-ка Вішнева, Валожынскага пав.

На Загорнай вуліцы 8 верасьня была вечарына сялянскай моладзі, але-ж скончылася яна ня вельмі „добра".

З „арыстакратычнай" вечарыны (паліцыянтаў, асадніхаў, бюро-адбудоўцаў, шпікоў, шляхцюкоў і г. д.), якая была на другой вуліцы, прышоў п‘яны паліцыянт з адным хлапцом, які знаходзіцца пад судом за тое, што скалечыў гр. Д. Убачыўшы гэтага хлапца нашыя хлопцы адразу запрапанавалі яму выйсьці з хаты, бо каму ахвота гуляць разам з гэткім чалавекам. Але ён, чуючы сябе пад апекай паліцыянта, адмовіўся і зараз-жа зьвярнуўся да паліцэйскага; а той і так ужо быў злы, што дзяўчаты ня хочуць з ім танцаваць, накінуўся на хлапца Яську Пятровіча і стаў выкідаць яго з хаты.

Але Яська Пятровіч—разьвіты і разумны чалавек, да і па прыродзе дужы—ня даўся, каб над ім зьдзекаваліся, ды й хлапцы прышлі на дапамогу, абураныя тым, што паліцыянт баронячы бандыта, сам робіць непарадкі і напрасілі і яго пакінуць вечарыну. Тады паліцыянт падышоў да шпіка, (які быў на вечарыне і ніхто ня ведаў, што ён шпік), і стаў з ім радзіцца, як быць. Размова йшла панямецку: яны думалі, што ніхто іх не зразумее і шпік радзіў паліцэйскаму пакінуць вечарыну, а ён—шпік—пастарацца справакаваць хлапцаў.

Яська П., які добра разумее нямецкую мову, падышоў да іх ды й кажа таксама панямецку: „Дурні-вы; думаеце, што ніхто ня знае вашых подлых замераў" і пачаў іх стыдзіць, што яны ня есьць абаронцамі спакою і грамадзкага ладу, а толькі бароняць бандытаў. Усе прысутныя запялі: «Ад веку мы спалі», а пасьля некаторыя палякі-рабочыя з заводу—„Czerwony Sztandar"... І пад гукі гэтых песьняў сялянскай моладзі шпік і паліцэйскі пасьпяшылі пакінуць вечарыну.

**Месьтачковы.**

### В. Бакачы, Стаўпецкага пав.

Каля нашае вёскі ёсьць двор Малыя Крывічы пана Гурскага, ў якім мы мелі супольную пашу. Колькі разоў мы ўжо судзіліся за яе, але ні да чаго не даходзілі. Не дайшлі мы і цяпер. Пан Гурскі падаў ў суд, што мы спасьвілі яго атаву. Судзьдзя прысудзіў у яго карысьць паўтара мільёна марак; гэта толькі за адну сенажаць, а за другія яшчэ будуць суды, але калі на іх будуць такія сьведкі, як пан Кучэўскі з м. Борак, дык і гэтыя праіграем. Ён прысягаў, што на спашчанай намі сенажаці касілі аж тры разы. Але да праўды мусіць ня дойдзем, ды й дзе яна будзе, калі адзін пан судзіцца, другі судзіць, трэці сьведчыць, а чацьверты прысягу дае. Узяць-бы хоць школу. Калі мы прасілі сваей роднай беларускай школы, дык нас празвалі бальшавікамі. За што? Хіба за тое, што мы хочам, каб нашы дзеткі вучыліся шанаваць сваю мову, сваю бацькаўшчыну. А калі праваслаўныя дзеці адмовіліся вучыць каталіцкія малітвы і катэхізм, дык вучыцелька пачала страшыць іх паліцыяй і інш. Як відаць, надагогі вельмі добрыя. Ды столькі ўсялякіх крыўдаў, што і валовай скуры ня хваціць, каб напісаць ўсё.

**Бакачоўскі.**

### Жальба да беларускіх паслоў.

Чытаючы ў газэтах аб мітынгах беларускіх паслоў па другіх паветах ды вокругах, вялікі жаль ахопливае нас жыхароў Ваўкавыскага павету. Ня ўжо-ж мы горшыя ад другіх? Ды чаму мы такія няшчасныя, што да нас ніводзін з паслоў вачэй не пакажа? Ці-ж мы не беларусы? І мы-ж вас пасылалі сваімі галасамі да Сойму, а дзеля таго жджом дарагога слоўца пацехі ў жыцьці цяжэнькім. Прыедзьце! Пакажэцеся! Каб мы хоць выліі перад вамі сваю бяду-гора, мо' лягчэй будзе на грудзёх! Дык чакаемо, дарагія паслы, спатканьня! Ўкіньце ў нашыя душы хаця маленькую іскру надзеі на лепшую будучыну. А то нам там цесна, душна, бязвольна, бяздольна і трудна жыць!

**Выбаршчыкі Ваўкавыскага павету.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**Беларуская літэратура на с.-г. выстаўцы.** З прычыны таго, што на Усесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўцы вельмі цікавяцца літэратурай на беларускай мове, Высткамбел паслаў ў Маскву ўсе выданьні беларускага выдавецтва і Народнага Камісарыяту Земляробства Беларусі.

**Прыезд новых прафэсароў у Б. Д. У.** Нядаўна ў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт прыехалі новыя прафэсары па гэткіх дысыплінах: па зоолёгіі—проф. П. А. Мавродзіадзі, па Заходня-эўрапейскай літэратуры—праф. А. А. Евлахаў, выкладчык статыстыкі — А. М. Арцымовіч, прафэсар астраноміі—А. А. Міхайлаў.

Таксама прыедзе праф. дзяржаўнага права—В. Н. Дурдзнеўскі.

**Выезд Ігнатоўскага на нараду Наркомаў Асьветы С. С. Р. Р.** Народны Камісар Асьветы Беларусі Ігнатоўскі і намесьнік Камісара Каранеўскі выехалі ў Маскву на нараду Народных Камісараў Асьветы Радавых Рэспублік.

Намесьнікам Камісара Асьветы Беларусі назначаны Усьпенскі.

**Навуковая праца ў Случчыне.** У Менску спыніўся вядомы навуковы працаўнік А. А. Сержпутоўскі, які едзе ў Случчыну для навуковых працаў.

### Ахвяры на прэсовы фонд.

Ад гр. Аўгені Дылеўскай—50.000 мк., ад А. Вініцкага—10.000 мк.

# Усячына.

### Перадача фатаграфіі па радыё.

Ангельскія электрыкі Д-р Фурньэ д‘Эльб і Эстрэнж Мэлон знайшлі спосаб перадачы фатаграфіі па радыё.

Сыстэма перадачы вельмі простая. Прыёмная альбо перадатачная радыё-станцыя злучаецца з пісоўнай машынкай. Фатаграфія альбо малюнак раскладаюцца на цэлую сыстэму кропак рознай велічыні, разьмешчаных ў форме сеткі.

Пры карыстаньні 10—15 кропкамі рознай велічыні можна мець досыць ясную перадачу малюнка.

### Новае ў гіпнозе.

За апошнія два гады гіпнотызм, забыты ў працягу доўгага часу, зноў быў выкліканы да жыцьця. Сучасныя дактары ўжываюць гіпнотызм для чыста мэдыцынскіх мэтаў.

Паміж іншым гіпнотызм ужываецца каб абмінуць болі пры радох ў кабет.

Загіпнатызаваная кабета раджае, не адчуваючы ніякай болі і нават прачнуўшыся не адчувае ніякай утомленасьці.

Таксама гіпноз дапамагае рабіць і другія апэрацыі.

Рэдактар-Выдавец Я. Лагіновіч.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.